

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 11 (лістапад), 2014

# Мяжа



**Як не стаць ахвярай кантрактнай сістэмы?**

(старонка 9)

## ЗЬМЕСТ

# Бяроза: праваабаронцы абскардзілі рашэнне суда па справе забароны пікета



Бярозаўскія праваабаронцы накіравалі скаргу рашэнне Бярозаўскага суда, які прызнаў забарону пікета 25 жніўня абгрунтаванай, у касацыйную інстанцыю – Брэсцкі абласны суд. У скарзе праваабаронцы просяць адмяніць рашэнне ад 14 кастрычніка, а справу перадаць на паўторны разгляд у суд Бярозаўскага раёна іншаму суддзі.

Бярозаўскі райвыканкам не даў дазволу на правядзенне пікета па прычыне адсутнасці дамовы з міліцыяй, якая не была пададзена разам з заявай, і занятасцю стадыёна, што не адпавядала рэчаіснасці.

Паводле праваабаронцаў, суддзя Наталля Вакульчык не звярнула ўвагі на парушэнне Бярозаўскім райвыканкамам арт. 58 Закона “Пра нарматыўна-прававыя акты РБ”, дзе сказана, што рашэнні або пастановы ніжэйшых інстанцый павінны быць зменены суадносна законаў або пастаноў вышэйшых або яны прызнаюцца

страціўшымі юрыдычную сілу. Бярозаўскі райвыканкам ужо 2 гады ігнаруе Пастанову Саўміна № 207, дзе сказана, што на працягу дня пасля падачы заявы на пікет наконт аховы правапарадку павінен дамаўляцца сам райвыканкам. Чыноўнікі не толькі своечасова не ўнеслі зменаў у сваё рашэнне адносна арганізацыі масавых мерапрыемстваў, але рэгулярна адсутнасць такой дамовы ўказваюць як парушэнне ўстаноўленага імі парадку арганізацыі акцый.

У судзе не было таксама дадзена належнай ацэнкі і нават не звернута ўвагі на непраўдзівыя звесткі райвыканкама пра занятасць стадыёна на заяўлены час пікета, што з'яўлялася таксама адной з прычын адмовы.

Праваабаронцы спадзяюцца, што відавочныя парушэнні юрыдычных і этычных нормаў Бярозаўскім райвыканкамам стануць падставай для задавальнення скаргі.

http://spring96.org/be/news/73832

## У Берасці абмеркавалі пытанне карупцыі

У рэдакцыі газеты „Брэсцкі кур'ер" прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці ў форме круглага стала правялі дыскусію з прадстаўнікамі рэгіянальнай прэсы адносна распрацоўкі Антыкарупцыйнай платформы. У межах сустрэчы былі абмеркаваныя віды карупцыі ў краіне, а таксама магчымыя шляхі барацьбы з ёй.

"Мы працуем над тэкстам Антыкарупцыйный платформы, які прайшоў першае чытанне сярод больш чым дзясятка грамадска-палітычных суб'ектаў", – адзначыў лідар АГП Анатоль Лябедзька:

- Мы вельмі зацікаўлены, каб не толькі мы сфармулявалі пазіцыю па гэтай балючай праблеме, таму што карупцыйныя састаўляючыя па калектыўнай ацэнцы экспертаў складаюць больш за 30 мільярдаў даляраў – гэта велізарныя грошы. Гэта азначае, што яны не працуюць на Беларусь, ці вельмі спецыфічна працуюць на інтарэсы вельмі вузкай групы людзей.

На думку экспертаў, адсутнасць карупцыі ў Беларусі магчыма пры выкананні некалькіх асноўных умоваў – адэкватным узроўні заробкаў грамадзян у суадносінах з іх працоўнай кваліфікацый і наяўнасці сумленных і справядлівых выбараў у краіне.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-abmerkavali-pytanne-karupts/

# Брэст: улады спрабуюць пакараць незалежную журналістку за супрацоўніцтва з замежным СМІ



Паводле позвы супрацоўнікі міліцыі выклікалі Аліну Літвінчук ў апорны пункт аховы парадку на 29 кастрычніка ў якасці сведкі па адміністрацыйнай справе, аднак ужо ў пастарунку высветлілася, што яна з'яўляецца "правапарушальніцай".

Літвінчук абвінавацілі ў парушэнні артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, а менавіта – "незаконной передачы і вырабеінфармацыі замежнаму сродку масавай інфармацыі, якое не мае акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь". З матэрыялаў справы вынікае, што ў якасці пацярпелага пазначаны кіраўнік Брэсцкага гарадскога аддзялення грамадскай арганізацыі "Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых" Аляксандр Драчук. Таксама да справы прыкладзенызварот намесніка начальніка ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці А.Крупенькіна, дзе падрабязна распавядалася, што Літвінчук нібыта займалася "незаконнай журналісцкай дзейнасцю", калі рыхтавала публікацыю аб актуальнасці праблем па ўжываннінасельніцтвам Брэсцкага рэгіёну наркатычных рэчываў (матэрыял на гэтую тэму пад назвай "Аднагодкі школьнікаў распавядуць пра школу спайсу" быў змешчаны на сайце Радыё Рацыя). Са звароту прадстаўніка КДБ вынікае, што ў дзеяннях Літвінчук бачацца прыкметы адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага 22.9 КаАП Рэспублікі Беларусь (незаконны выраб прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі).

Як распавяла Аліна Літвінчук, пасля азнаямлення з матэрыяламі справы яна вырашыла адмовіцца ад дачы паказанняў,

скарыстаўшыся сваім гарантаваным правам паводле артыкула 27 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Адразу пасля гэтага супрацоўнік міліцыі Дзмітрый Сверба склаў адпаведны пратакол і ўручыў позву для яўкі ў суд 6 лістапада. Аднак, як высветлілася пазней, гэтая дата не была ўзгоднена з суддзёй. Акрамя таго, варта звярнуць увагу і на тое, што ў пратаколе засталіся пустымі графы з дадзенымі пацярпелага і сведак.

Адміністрацыйны працэс пачаўся 31 кастрычніка, але суддзя суда Ленінскага раёна горада Брэста С.Калінкіна адправіла матэрыялы справы на дапрацоўку і, як паведміла Літвінчук, увечары таго ж дня ў кватэру, дзе пражывае журналістка, пачалі спачатку настойліва званіць, а пасля спрабавалі выбіць дзверы. Далей пасыпаліся пагрозы і незнаёмы голас заклікаў “адчыніць па-добраму”, бо “гэта міліцыя - раім паспяшацца”. Перш чым адчыніць дзверы, Аліна патэлефанвала па нумары 102, заявіўшы пра спробу незаконнага пранікнення ў жылое прыватнае памяшканне. У выніку каля ўваходу ў агульны калідор Літвінчук пазнала супрацоўніка міліцыі Дзмітрыя Свербу, які знаходзіўся ў цывільнай вопратцы. Спробу пранікнення ў жылое памяшканне ён патлумачыў “некарэктнымі паводзінамі свайго напарніка”, пасля чаго паведаміў, што прыйсці дахаты да Літвінчук было патрэбна, каб перапісаць пратакол, які быў вернуты судом (пра пачатак суда журналістка даведалася ад супрацоўнікаў міліцыі). Аднак паўторна падпісваць пратакол Аліна Літвінчук зноў адмовілася.

http://spring96.org/be/news/73920

## Брэст: мясцовыя журналісты правялі акцыю салідарнасці з калегамі-фрылансерамі, якія адчуваюць праслед за працу без акрэдытацыі

Акцыя адбылася ў межах кампаніі “Станем за журналістыку!”, якая штогод ладзіцца 5 лістапада паводле ініцыятывы Міжнароднай федэрацыі журналістаў (IFJ) і падтрыманая ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” (БАЖ).

Як паведаміў кіраўнік брэсцкага аддзялення БАЖ Алег Супрунюк, прапанова зрабіць сёлета акцэнт падчас гэтай акцыі на праблемы, з якімі сутыкаюцца фрылансеры, надзвычай актуальная. Сярод сябраў



мясцовай філіі БАЖ – шмат маладых журналістаў, якія працуюць фрылансерамі, у сувязі з чым зведваюць ціск з боку ўладаў. У першую чаргу гэта тычыцца прыцягнення да адказнасці паводле артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Сёлета сярод тых, каго органы пракуратуры афіцыйна папярэдзілі на падставе гэтага артыкула, ёсць два фрылансеры з Брэста – Яўген Скрабец і Максім Хлябец, а літаральна днямі абвінавачванне паводле артыкула 22.9 КаАП высунутае і ў дачыненні да Аліны Літвінчук.

http://spring96.org/be/news/73994

## Брэстчына салідарная з палітвязнямі



Чатыры гарады Брэстчыны -- Брэст, Бяроза, Жабінка, Кобрын 16 лістапада правялі акцыю салідарнасці з палітвязнямі. Плакаты з надпісамі: “Свабоду палітвязням!”, а таксама партрэтамі экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча са звесткамі пра яго і пра тое, што ён асуджаны на 6 гадоў турмы за выклік існючай уладзе, з’явіліся ў розных месцах гэтых гарадоў.

Арганізатары акцыі упэўненыя, што такая падтрымка важная як самім палітзняволеным, іх родным, так і самому грамадству. Па іх меркаванні, плакаты былі карысныя асабліва для тых, хто карыстаецца толькі дзяржаўнымі мас-медыя.

http://spring96.org/be/news/74146

## Кобрын: Антон Мех таксама праходзіць па справе “несанкцыянаванага мітынгу” ў Свіслачы




18 лістапада 17-гадоваму Антону Меху, сыну грамадскага актывіста Алеся Меха з Кобрына, на дом супрацоўнік міліцыі прынёс позву, дзе было сказана, што ён выклікаецца па справе аб несанкцыянаваным мітынгу ў Свіслачы.

Як акзалася падчас апытання, са Свіслацскага РАУС прыйшоў дакумент, дзе міліцыянты ўказалі на Антона як на сябра Партыі БНФ, які выступаў на несанкцыянаваным мітынгу .

Разам з тым, па словах Алеся Меха, для выступоўцы сярод дарослых ягоны сын яшчэ занадта малады, тое ж датычыць і сяброўства ў Партыі БНФ.

Пратакол адміністрацыйнага правапаршэння адносна Антона Мех будзе накіраваны ў камісію непаўнагадовых пры Кобрынскім райвыканкаме.

http://spring96.org/be/news/74200

## Брэст: актывіст БХД атрымаў папярэджанне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай партыі



Афіцыйнае папярэджанне за подпісам намесніка пракурора Брэсцкай вобласці Аляксандра Тачко вынесена мясцоваму каардынатару аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя” (БХД)

Аляксандру Храпко.

У тэксце дакумента, які Храпко атрымаў 13 лістапада, гаворыцца, што ён афіцыйна папярэджаны “аб недапушчальнасці ўдзелу ў дзейнасці і выступу ад імя незарэгістраванай партыі”. Пры гэтым прадстаўнік абласной пракуратуры спасылаецца на частку 3 артыкула 7 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб палітычных партыях”. Таксама вядома, што свае высновы пракуратура зрабіла на падставе матэрыялаў, дасланых Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. У прыватнасці, размова ідзе пра тое, што брэсцкі актывіст прымаў удзел у кампаніях “’За малы памежны рух’’ і “Абаронім нашых дзяцей ад алкагалізму”, ініцыятарамі якіх выступілі сябры арганізацыйнага камітэту па стварэнні партыі БХД.

Сам Аляксандр Храпко паведаміў, што ня бачыць ва ўласных дзеяннях правапарушэння і лічыць, што праваахоўныя ўстановы проста вырашылі застрашыць за тое, што ён прапагандуе ідэі хрысціянскіх дэмакратаў. Але гэта, на думку Храпко, з’яўляецца ягоным асабістым перакананнем, за якое ён зараз зведвае пераслед з боку ўладаў.

http://spring96.org/be/news/74116

## Як не стаць ахвярай кантрактнай сістэмы?



У Беларусі слова “кантракт” набыло вельмі негатыўны характар, паколькі наймальніку дадзены неабмежаваныя паўнамоцтвы, а працаўнік аказаўся бяспраўным. Але зараз можна ўпісваць норму,

рэкамендаваную Федэрацыяй прафсаюзаў, у калектыўную дамову, якая можа стаць для работніка ахоўнай граматаю, кажа прававы інспектар прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Уладзімір Малей :

- На некаторых прадпрыемствах па рэкамендацыі Федэрацыі прафсаюзаў упісваюць такую норму: з работнікам, які працаваў цягам усяго тэрміну кантракта сумленна і не меў працоўных і дысцыплінарных парушэнняў, наймальнік павінен заключыць кантракт на 3 гады.

Калі такі запіс ёсць у калектыўнай дамове, тады работнік пры звальненні па заканчэнні кантракта можа быць адноўлены на працы праз суд. Уладзімір Малей раіць работнікам не проста падмахваць кантракт, а ўважліва яго прачытаць, каб ведаць магчымасці сваёй абароны. Пры адсутнасці такога запісу ў калектыўнай домове работнік застаецца зусім безабаронным.

http://www.racyja.com/hramadstva/yak-ne-stats-akhvyaraj-kantraktnaj-siste/

## ТБМ прапанавала стварыць Нацыянальны беларускі ўніверсітэт

Таварыства Беларускай мовы прапануе стварыць Нацыянальны беларускі ўніверсітэт, дзе ўсе прадметы будуць выкладацца па-беларуску, і надаць яму імя Францішка Багушэвіча – класіка беларускай літаратуры. Як адзначае старшыня таварыства Алег Трусаў, калі ўніверсітэты пяройдуць на беларускую мову навучання, то і ў школы пацягнецца чарга ў беларускамоўныя класы.

- Таварыства беларускай мовы сабрала 55 тысяч подпісаў грамадзян на конт стварэння гэтага ўніверсітэта. Арыгіналы подпісаў знаходзяцца ў нас, а копіі ў свой час я перадаў тагачаснаму міністру адукацыі Стражаву. Гэта даўно было, па-мойму, у 2000 годзе. Зараз у сувязі з усімі гэтымі выступамі Тозіка і кампаніі мы звяртаемся да кіраўніка. Дасылаем гэты ліст непасрэдна ў Адміністрацыю прэзідэнта і Мясніковічу з прапановай гэты ўніверсітэт адкрыць. Калі мы хочам, каб школы былі беларускія, трэба на беларускую мову перавезці ўсе ўніверсітэты.

Адным з варыянтаў стварэння ўніверсітэта, са слоў Трусава,

можа быць вылучэнне на базе БДУ выкладчыкаў і студэнтаў, якія могуць і хочуць выкладаць і вучыцца на роднай беларускай мове ў асобную структуру. З наступнага навучальнага года можна таксама стварыць у кожнай ВНУ краіны беларускамоўныя плыні і групы для будучых студэнтаў і абвесціць пра гэта ў СМІ – падкрэсліваецца ў звароце ТБМ да беларускіх уладаў.

http://www.racyja.com/hramadstva/tbm-prapanavala-stvaryts-natsyyanaln/

## Звольненыя працоўныя рыхтуюць петыцыю аб аднаўленні на працы




Кіраўніцтва чыгуначнай станцыі Берасце-Цэнтральнае 2 вырашыла ашчадзіць на працэдуры скарачэння. Дзве прыбіральшчыцы пункта тэхнічнага абслугоўвання Ганна Коваль і Марына Мазурэнка замест прапанаванага спачатку скарачэння атрымалі звальненне за прагул, бо не пагадзіліся перайсці на працу з горшымі ўмовамі і прыйшлі за разлікам. Гэты дзень паставілі ім як прагул, кажа прававы інспектар прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Уладзімір Малей:

- Наймальнік нечакана перадумаў, трэба ж трохмесячную дапамогу жанчынам плаціць. Наймальнік вырашыў гэты загад пра скарачэнне адмяніць, а зрабіць іх прыбіральшчыцамі вытворчых памяшканняў.

Восем з паловай месяцаў жанчыны змагаюцца за адмену фармулёўкі звальнення і зыску за вымушаныя прагулы і маральную шкоду, кажа Ганна Коваль:

- У калгасе адпрацавала дваццаць гадоў, а тут ужо чатырнаццаць

гадоў за капейкі і так са мной паступілі. Як мне пражыць? За што купляць гэтыя таблеткі? Трэба ж есці. Вось так я да гэтага часу пакутую. Ездзіла на рэабілітацыю, наймала кіроўцу, 500 тысяч дарога толькі за паліва. Над хворым чалавекам так здзекваюцца.

Калі маладая Марына Мазурэнка ўжо знайшла новае месца працы, то Ганна Коваль, якой год да пенсіі, перанесла інсульт і мае анкалагічнае захворванне, новую працу знайсці цяжка.

http://www.racyja.com/hramadstva/zvolnenyya-pratsounyya-rykhtuyuts-petyts/

## Брэст: адказваць на звароты дэпутаты пачалі пасля таго, як на іх паскардзіліся ў пракуратуру

Актывісты грамадскай ініцыятывы “Сацыяльны офіс” атрымалі лісты з адказамі ад некаторых дэпутатаў Брэсцкага гарадскога Савету. Пытанні да народных абраннікаў тычыліся таго, як яны збіраюцца рабіць справаздачу аб сваёй дзейнасці перад выбаршчыкамі.

Прадстаўнік “Сацыяльнага офісу” Юрый Жыдовіч мяркуе, што падштурхнуць дэпутатаў да таго, каб урэшце (хай і са спазненнем) яны адказалі на звароты грамадскасці, магло паведамленне пра тое, што актывісты папрасілі пракуратуру праверыць, ці быў парушаны Закон “Аб зваротах грамадзян”.

“Магчыма, хтосьці з дэпутатаў сапраўды проста забыўся даць своечасовы адказ у адведзеныя законам тэрміны, - кажа Юрый Жыдовіч. – Але ўвогуле мы атрымалі лісты толькі ад шасці дэпутатаў за амаль сарака, што былі абраныя ў гарадскі Савет. Такім чынам астатнія праігнаравалі нашы звароты”.

Актывіст таксама адзначыў, што ўсе атрыманыя ад дэпутатаў адказы ў хуткім часе плануецца выкласці ў публічную прастору Інтэрнэту, каб з імі мог азнаёміцца кожны, хто пажадае.

http://spring96.org/be/news/74311

## У Берасці падалі заяўку на пікет да Дня правоў чалавека

Заяўку на правядзенне пікету да Міжнароднага дня правоў чалавека берасцейскія праваабаронцы падалі ў гарадскі выканаўчы



камітэт. Яны хочуць зладзіць мерапрыемства 10 снежня ў дазволеным уладамі месцы – Парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, – распавёў адзін з заяўнікаў пікету Уладзімір Вялічкін:

- Берасцейскія праваабаронцы падалі заяўку на правядзенне 10 снежня пікету ў гонар 66-й гадавіны прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Адначасова мы вырашылі нагадаць жыхарам горада пра праблему палітзняволеных і звярнуць увагу насельніцтва і кіраўніцтва горада на тое, што правы чалавека трэба выконваць, бараніць і прапагандаваць.

“Я не маю ілюзій адносна дазволу пікету, аднак надзея памірае апошняй”, – адзначыў Уладзімір Вялічкін. Ён не выключае, што праваабаронцы могуць атрымаць дазвол на правядзенне мерапрыемства.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-khochuts-pravestsi-piket-da-dnya/

## Брэст: прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці ўшанавалі памяць ахвяраў палітычных рэпрэсій



29 кастрычніка сябры Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), актывісты грамадзянскай кампаніі “Гавары праўду” і праваабаронцы наведалі Трышынскія могілкі ў Брэсце, дзе ўсклалі кветкі да манумента ахвярам палітычных рэпрэсій.

Як адзначыў лідар брэсцкіх сацыял-дэмакратаў Ігар Маслоўскі, аналагічныя памятныя акцыі ў горадзе ладзяцца штогод, і кожны раз

удзельнікі такіх мепрыемстваў узгадваюць, што ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў мінскай турме НКУС было расстраляна больш за 100 беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, дзяржаўных дзеячаў. "Усяго за савецкі перыяд палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі закранулі каля мільёна чалавек, і гэтым дзеяннем няма апраўдання, - зазначыў Маслоўскі. – Таму мы не павінны забываць пра ахвяраў тых змрочных часоў, калі нехочам, каб гэтыя падзеі калі-небудзь зноў паўтарыліся". Увечары 29 кастрычніка да Дня памяці ахвяраў палітычных рэпрэсій было прымеркавана паседжанне тэматычнага "круглага стала" ў мясцовым офісе БСДП (Грамада).

http://spring96.org/be/news/73864

## У Берасці судзяць фермераў, якія далі адпор міліцыі



У Берасцейскім раённым судзе пачаўся працэс над жыхаром вёскі Арлянка Маларыцкага раёна Аляксандрам Бельчуком, які з братам Мікалаем не дазволілі інспектару абласной ДАІ Сяргею Неліповічу забраць у іх з двара самаробны трактар. Міліцыянт звінавачвае братоў Бельчукоў у тым, што яго збілі. Такога не здарылася, як кажа сведка канфлікту Сяргей Іванец:

– Да плота прыціснуў Сашу, пачаў яго трэсці. Адной рукой трымаў Сашу, а другой – тэлефанаваў. І тут прыехаў участковы Сідарук у міліцэйскай форме, падбег да іх, адразу ж выцягнуў пісталет і сказаў, прыкладаючы яго да галавы Сашы: "Застрэлю". А Саша стаяў спакойна, нават не рухаўся.

Капітан ДАІ Сяргей Неліповіч сваёй віны у канфлікце не бачыць:

– Вы дрэнна, відаць, разглядалі гэтыя здымкі. Калі ўважліва

паглядзець, то там усё выдатна бачна: разбіты нос, кроў. Гэта прымяненне фізічнай сілы ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі. Гэта забаронена ў нас. Я не прыязджаў туды біцца ці сварыцца. Я прыехаў для правядзення адміністрацыйнага працэсу.

У судовым працэсе начальнік ДАІ Берасцейскага раёна Касперчук Аляксандр пад уражаннем канфлікту 9 траўня сёлета назваў вяскоўцаў, што прыйшлі бараніць Бельчукоў, фашыстамі і неанацыстамі.

* * *





Гаспадарам самаробнага трактара братам Аляксандру і Мікалаю Бельчукам з вёскі Арлянка Маларыцкага раёна пагражае да 6 гадоў турэмнага зняволення нібыта за збіццё старэйшага інспектара

дарожна-патрульнай службы Берасцейскага аблвыканкама капітана Сяргея Неліповіча.

9 траўня бягучага года яны не падпарадкаваліся Неліповічу. Ён прыехаў у вёску Страдзеч, у двор да іх сына і пляменніка, каб канфіскаваць самаробны трактар, на які не паспелі зрабіць дакументы, але прывезі з Арлянкі ў суседнюю вёску Страдзеч на лафеце.

Непадпарадкаванне вывела з сябе капітана Неліповіча, і справа закруцілася, кажа фермер Аляксандр Бяльчук, бацька 8-рых дзяцей:

– Мы трактар ставім у гараж, выходжу я з гаража, яны адразу на мяне кажуць: “Ну, ты мужык папаў!” Я яму кажу: “Паслухай, як ты размаўляеш са старэйшымі?” Як я сказаў яму на “ты” , ён адразу за грудкі мяне: “Я восем гадоў у абласным ДАІ адпрацаваў, мяне так ніхто не называў”. І пачаў мяне за грудкі цягаць.

Праваабаронца Уладзімір Малей лічыць, што крымінальную справу трэба заводзіць супраць работніка міліцыі за ўседазволенасць.

– Вінаватых супрацоўнікаў міліцыі апраўдваюць, а з людзей, якія абараняюць сваю маёмасць, робяць вінаватых. Да таго ж даюць ілжывыя паказанні, што ўласнікі аказалі супраціў, нанеслі цялесныя пашкоджанні. Хаця ёсць дастаткова доказаў, што цялесныя пашкоджанні не наносілі супрацоўніку міліцыі.

Па словах Малея, можна толькі ўявіць сабе далейшыя паводзіны маладога супрацоўніка ДАІ Неліповіча, калі суд прыме яго ілжасведчанні і падтасоўкі фактаў.

Суд пачынаецца 20 лістапада.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-berastsi-sudzyats-fermerau-yakiya-dali-a/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»